ГОД VII САКАВІК - КРАСАВІК 1953 г. № 53

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année VII. № 53. Mars-Avril 1953
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1953 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 10 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 8 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI$^{e}$.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981,
4, de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:
Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str.
East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:
Mr. Borysevic Vasil, 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:
Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2000 фр. — 2 ф.
M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**УВАГА!**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асабісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Гоенае раны ня трэба дражніць.
Гора мучыць, гора вучыць, гора й песенькі пяе.
Гора навучыць глядзець у гору (маліцца).
Гордага Бог з неба сьпіхае.
Горкаму ўсюды горка.
Граматы вучыцца, заўсёды прыгадзіцца.
Грызі з-замаладу каменьні, на старасьць будзеш есьці пірагі.
Грэх не схаваеш у мех — Бог ўсё бачыць.
Грэх ня сьмех — не адстане, хіба папу аддасі. (у споведзі)..
Гулі не аднаго ў лапці абулі.
Гультай есьці ня пытай.
Гэта ня дорага, калі ёсьць дзе купіць, гэта дорага, як не дастаць.
Да адвагі трэба развагі.
Да адважных сьвет належыць.
Дабро перахадзя жыве.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VII. САКАВІК-КРАСАВІК № 53.

# Таго, каго вы шукаеце, няма тут

Сонца дня, які для нас ёсьць днём Госпада, яшчэ ня ўзыйшло, калі жанчыны павярталіся ў сад. Але ў бок ад усходу, на ўзгорках, белая надзея, лёгкая як адбіцьцё сусьвету, апранутага ў срэбра і лілеі, падымалася сярод дрыжучых сузор'яў і троху-па-троху перамагала водблескі і мігценьні ночы. Лагоднае сьвітаньне наводзіла думку пра сон нявінных. Чыстае і лагоднае паветра быццам хвалявалася ад лётаньня анёлаў. Празрыстыя белі, сарамязлівая радасьць, дрыжаньні і нявінасьць абвяшчалі дзень дзявочай сьвежасьці.



Жанчыны, агорнутыя сваім сумам, ішлі ў раньнім ветру і адчуваньні, якога яны самі не маглі ўцяміць, а якое іх заварожвала. Ці павярталіся яны, каб плакаць на скале? Ці каб апошні раз пабачыць Таго, хто ўмеў узьняць сэрцы не параніўшы іх? Ці каб цела нявінна Укрыжаванага паліць бальзамамі манцейшымі чымся гэныя Нікадэмавы? Гутарачы між сабою, яны казалі:

— Хто нам адваліць камень ад гробніцы?

Яны былі ўчатырох, бо Іванна з Кузы і Салямэя йшлі разам з Марыяй з Бэтаніі і з Марыяй з Магдалі. Яны былі толькі жанчыны і зьнясіленыя сумам.

Калі яны падыйшлі да гробніцы, іх запыніў жах. Уваход у гробніцу адчыняўся ў цямноту. Ня верачы сваім вачом, адважнейшая шукала парогу дрыжачаю рукою. Пры дзённым сьвятле, якое кожнае хвіліны набірала моцы, яны знайшлі камень, абапёрты на суседнія скалы.

Анямелыя ад страху жанчыны агляну́ліся, быццам каб знайсьці кагось, хто-б мог ім сказаць аб усім тым, што сталася на працягу гэтых дзьвёх ночаў. Марыя Магдалена адразу падумала, што жыды, яшчэ нездаволеныя тымі цярпеньнямі, якія спрычынілі Хрысту за жыцьця, выкралі Ягонае цела. Або магчыма разьюшаныя тым, што гэты гроб быў занадта пачэсным для гэрэтыка, прыказалі выкінуць Яго цела ў зьбясчэшчаную яму для забітых каменьнямі і ўкрыжаваных?

Але гэта была толькі здагадка. Магчыма Ісус быў яшчэ ў сваіх пахучых павівалах. Яны не адважваліся ўвайсьці, аднак яны не маглі і адыйсьці, не даведаўшыся нічога пэўнага. І ледзь узыходзячае над узгоркамі сонца асьвяціла ўваход у гробніцу, яны набраліся адвагі і ўвайшлі.

Спачатку яны ня бачылі нічога, пасьля новы жах ахапіў іх. Праваруч сядзеў юнак, апрануты ў белае, якога вопратка блішчэла ў цемры як сьнег і здавалася іх чакаў.

— Ня бойцеся! Таго, Каго вы шукаеце, няма тут; Ён уваскрос. Чаму вы шукаеце жывога паміж мёртвымі? Ці-ж вы не прыпамінаеце, што Ён сказаў у Галілеі, што Ён будзе адданы ў рукі грэшнікаў і што ўваскросьне на трэці дзень?

Жанчыны слухалі зьбянтэжаныя, ня могучы нічога адказаць. Юнак працягваў далей:

— Ідзеце знайдзеце Ягоных братоў і скажэце ім, што Ісус уваскрос і што яны хутка зноў пабачаць Яго.

Усе чатыры, дрыжучы ад сполаху і радасьці,

пакінулі гробніцу і адразу пабеглі туды, куды іх пасылалася. Калі зрабілі некалькі крокаў і ўжо былі амаль навонках агароду, Марыя Магдалена затрымалася, а іншыя сьпяшаліся ў горад, не чакаючы яе.

Яна і сама ня ведала, чаму асталася. Магчыма, што словы нязнанае асобы яе не пераканалі і яна ня была яшчэ ўпэўненай, што гроб быў пусты; ці не ашукаў іх які хаўрусьнік сьвятароў?

Раптам яна павярнулася і на фоне сонца і зелені блізка сябе ўбачыла мужчыну. Але яна яго ніяк не пазнала, нават калі ён казаў:

— Жанчына, чаго плачаш? Каго шукаеш?

Марыі здалося, што гэта быў агароднік Язэпа, які раненька прыйшоў працаваць.

— Я плачу, бо яны выкралі майго Господа і ня ведаю, дзе палажылі Яго. Калі гэта ты зрабіў, дык скажы мне, дзе палажыў і я забяру Яго.

Мужчына, на гэтую палкую шчырасьць, на гэтую дзіцячую наіўнасьць не адказаў інакш, як толькі адным словам, адным яе ўласным імем, але з націскам насталыгіі і жалю, чульлівым і не да забыцьця голасам, якім Ён яе называў гэтулькі раз:

— Марыя!

І вось быццам разбуджаная зьнячэўку і безнадзейная знайшла згубленую Істоту.

— Раббоні. Вучыцелю!

І яна ўпала на вогкую траву і прасьцягнула свае рукі да Ягоных босых ног, на якіх яшчэ было відаць падвойную ружовасьць ад цьвікоў. Але Ісус сказаў ёй:

— Не дакранайся да Мяне, бо Я яшчэ ня ўзыйшоў да Айца Майго, але йдзі да братоў Маіх і скажы ім: узыходжу да Айца Майго і Айца вашага, і Бога Майго і Бога вашага. І скажы ім, што Я іх папярэджу ў Галілеі.

І раптам Ён адлучыўся ад кленчучай і аддаліўся ў сад, каранаваны сонцам. Вочы Марыі глядзелі ўсьлед за Ім датуль, пакуль Ён ня зьнік: пасьля яна паднялася са зьбянтэжаным аблічам, асьлепленая радасьцю і пабегла туды, куды пайшлі перш яе сяброўкі.

Гэныя перад хвілінаю прыйшлі ў хату, дзе хаваліся вучні і наперабой расказвалі рэчы не да паверанья, што гробніца адчынена, сторож апранены ў белае, уваскрасеньне Вучыцеля.

Але мужчыны, яшчэ прыгнобленыя катастрофаю, (яны паказалі сябе ў гэныя дні небясьпекі больш забудзькаватымі і менш наважанымі чым гэтыя бедныя жанчыны) не хацелі верыць у так нязвычайныя навіны. Брэдні, зданьні жанчын — казалі яны. Як Ён можа ўваскроснуць пасьля двох дзён? Ён нам сказаў, што прыйдзе зноў, але ня так хутка, толькі страшных падзеяў мае стацца перад тым днём.

Яны думалі, што Хрыстос уваскрось не ў той самы час, як і ўсе мёртвыя; тады Ён прыйдзе ў сваёй славе і пабудуе Дзяржаву. На сёньня — гэта было-б за хутка; гэтыя лётныя мары ня могуць быць праўдзівымі.

І тут прыбягае, задыханая духовым хвляваньнем і зробленай дарогай, Марыя Магдалена. Тое, што казалі іншыя, было шчырай праўдай. Яшчэ больш: яна сама бачыла Яго сваімі вачыма, яна з Ім гутарыла; яна спачатку не пазнала Яго, але калі Ён вымавіў яе імя, яна манілася дакрануцца да Яго сваімі рукамі і бачыла раны на Яго нагах; гэта быў Ён, жывы як і калісьці і Ен ёй прыпомніў яшчэ раз загад нязнанае асобы: Ідзі да Маіх братоў таму, каб яны ведалі, што Я ўваскрос паводля Майго абяцаньня.

Апосталы нарэшце зварухнуліся; Сымон-Пятро і Іван пабеглі да Язэпавага гароду. Іван малодшы, дык прыбег першы. Ён падышоў да гробніцы, нахіліўся над уваходам і пабачыў на зямлі спавівальнікі, але ў гробніцу не ўвайшоў. Сымон-Пятро прыбег, страціўшы дух, і адразу шугнуў у гробніцу. Частка бялізны ляжала параскіданая па зямлі; палотнішча, якім была прыкрытая галава Хрыста, было зложана асобна. Тады ўвайшоў Іван, пабачыў і паверыў. Не гаворачы ні слова і вельмі шпарка яны вярнуліся дамоў, быццам спадзяючыся знайсьці Ісуса сярод іншых вучняў.

Але Ісус, пакінуўшы Марыю, адышоў з Ерузаліму.

**Жёваньні Папіні**
Тлумачыў Лявон Р.

**Увага:** Гэта адзін разьдзел з кнігі ведамага італьянскага пісьменьніка Жёваньні Папіні «Гісторыя Хрыста». Яна ператлумачана на шматлікія мовы сьвету.

# Лёгіка незалежнасьці

Хрыстос вызваліў людзей з духовае няволі, ад граху і паказаў шлях, які вядзе да найвышэйшых ідэалаў: да сьвятасьці, да агляданьня Бога — гэта ёсьць апошняя мэта жыцьця чалавека. Гэтыя ідэалы бязумоўна нязывчайна высокія, але асягальныя, бо ў чалавеку ўжо ад прыроды ёсьць імкненьне ў гэтым кірунку і да таго яшчэ даецца надзвычайная помач ад Бога.

Які ёсьць той шлях?

Да сьвятасьці вядзе перш-на-перш пазнаньне найвышэйшага ідэалу, а потым **свабоднае і сьведамае** выконваньне Божых прыказаньняў. Тут на

словы «свабоднае і сьведамае» кладзецца асаблівы націск, бо-ж агульна ведама, што жывёлы шмат больш акуратна чым чалавек падпарадкоўваюцца Божай волі, але выконваюць яе бяз ніякае сьведамасьці і без свабоды дык і ня маюць ніякае сьвятасьці.

Чалавек-жа ў адрозьненьне ад усяго жывога і няжывога, што ёсьць на зямлі, мае здольнасьць думаць і выконваць свае думкі незалежна ад вонкавых узьдзеяньняў,бо толькі чалавек складаецца з духовае душы, якую артымоўвае ад Бога, і з цела, якое мае ад бацькоў; і гэта дае чалавеку асаблівую магчымасьць дзейнасьці. Незалежнасьць думкі і дзеяньня дазваляе чалавеку і толькі чалавеку аваладваць прыродаю. Год-у-год, ступень за ступеньню гэтае аваладаньне збольшваецца быццам дзеля таго, каб чалавек сам усьведаміў веліч ідэалу, да якога імкнецца і які безьмежна перавышае ўсю прыродную веліч, каб усьведаміў веліч Бога, бо-ж ад перамогі да перамогі над прыроднымі стыхіямі ўласьціва вядзе дробная іскра Божая, якая есьць ў чалавеку — душа. Гэта яна вызваляе чалавека с-пад залежнасьці ад прыроды і яна імкнецца да ідэалаў. Цяпер ужо людзі не баяцца тых грозных стыхіяў, як агонь, вада, грымоты і інш., супраць якіх калісь чуліся бясьсільнымі, бо навучыліся змагацца з імі, больш таго, цяпер умеюць апаноўваць іх і нават застаўляюць іх служыць сабе.

Чалавек ёсьць асобаю і пры там асобаю заканаю ў сяброўста сабепадобных, але дзякуючы прысутнасьці ў кожнай асобе душы і магчымасьці самабытнага думаньня, чалавек ніколі ня можа тварыць з іншымі нейкага мурашніка, ці пчалінага рою. Творачы грамаду і разьвіваючы свае сілы, нажаль чалавек не затрымоўваецца ад надужыцьцяў. Аваладваючы прыродаю і акружэньнем, ён пайшоў далей і пачаў аваладваць сваіх братоў; у грамадзтве зьявіўся факт паняволеньня чалавека чалавекам.

Але калі чалавек мог змагацца за вызваленьне ад залежнасьці адносна прыроды, дык тым больш лягічна змагаўся і змагаецца за вызваленьне з паняволеньня чалавекам і гэтае вызваленьне асноўваецца ня толькі на прыродных, але так-жа і надпрыродных Божых правох.

У прыродным парадку чалавек неабходна патрабуе свабоды для разьвіцьця ўсіх сваіх творчых сілаў і здольнасьцяў. З гэтага гледзішча чалавек істотна розьніцца ад неразумных жывёлаў, якія незалежна ад таго, ці яны будуць на волі, ці ў няволі, аднолькава могуць праяўляць свае інстынкты. Чалавек-жа прыходзіць на сьвет з рознымі здольнасьцямі, якія мусіць разьвіваць сьведамаю працаю над сабою; толькі людзі твораць школы і узгадаваўчыя ўстановы для свайго разьвіцьця.

Птушкі, як будавалі гнёзды тысячы гадоў таму, так будуюць і сёньня; як бабры будавалі свае хаткі яшчэ да часу зьяўленьня чалавека, так будуюць і сёньня, а людзкая культура і цывілізацыя не стаіць і аднаго дня на мейсцы, яна ўсьцяж ідзе ўпярод да новых асягненьняў. Але толькі вольны чалавек мае поўныя магчымасьці прычыніцца да поступу культуры, таму змаганьне за вольнае разьвіцьце прыродных здольнасьцяў чалавека ёсьць роўназначнае са змаганьнем за поступ культуры і цывілізацыі, таму змаганьне за поступ культуры лягічна павінна ўключаць змаганьне за свабоду і незалежнасьць.

Побач здольнасьцяў і творчых сілаў чалавек мае ўроджанае імкненьне да ідэалаў, да дабра; паняволеньне гэтыя імкненьні прыглушае, а часам дык і зусім нішчыць, а тымсамым дэградуе чалавека.

Надпрыродныя правы да незалежнасьці чалавека яшчэ больш ясныя чым прыродныя. Чалавек створаны вольнаю істотаю на абраз і падабенства Бога — значыць такім ён мае прадаўжаць сваё існаваньне. Людзкая душа мае дзьве асноўныя сілы: розум і вольную волю, і сам Бог, хоць Ён абсалютны Валадар сусьвету, ніколі ня сілуе вольнасьці людзкое волі; больш таго, Ён толькі тыя людзкія акты лічыць заслугоўваючымі на вечную нагароду, якія выконваюцца сьведама і дабравольна. Тым больш людзі забавязаны шанаваць вольную волю сваіх братоў. Усякае насільства над воляю чалавека ёсьць злом.

Таму аднак, што чалавек складаецца з душы і цела і носьбітам вольнае волі ёсьць душа, дык магчыма спытацца: ці свабода і воля належыцца толькі душы, ці ўсяму чалавеку? Бязумоўна, што ўсяму, бо душа і цела разам твораць адну непадзельную асобу, данаго чалавека. І хоць у людзкой дзейнасьці разрозьніваюць некаторыя акты, як чыста духовыя, а іншыя, як чыста цялесныя, аднак яны заўсёды ёсьць актамі ўсяго чалавека і за іх адказвае ўвесь чалавек. Дзеля гэтага спроба дзяленьня душы і цела ў жывым чалавеку, там дзе яны твораць адзінства, ёсьць бязглузьдзем.

Да гэтага разважаньня можна зрабіць паважную засьцярогу, што гісторыя ведае сьвятых, якія дайшлі да сьвятасьці будучы нявольнікамі; значыць і ў фізычным паняволеньні людзі могуць дайсьці да дасканаласьці ў разьвіцьці сваіх здольнасьцяў і ў выконваньні Божых прыказаньняў. Гэта праўда, але яна не агульная, наадварот вельмі вынятковая і яна нічуць не зьначвае таго факту, што паняволеньне ёсьць злом, якое паважна шкодзіць разьвіцьцю чалавека і перашкаджае ў асягненьні дасканаласьцяў. На падцьверджаньне гэтае думкі можна спаслацца на прыклад з беларускае гісторыі: за апошніх 30 гадоў акупацыйныя ўлады вынішчылі 72 беларускіх вучоных і 62 выдатных беларускіх пісьменьнікаў — гэтым спрычынілі ня толькі беспаваротную шкоду беларускаму народу, але агулам усяму чалавецтву, бо вынішчылі цьвет народу, вынішчылі тых людзей,

якія маглі прычыніцца да агульнага поступу культуры і да агульналюдзкага дабра.

Але і на гэтае разважаньне можна заўважыць: добра, прымем што паняволеньне ёсьць злом, але-ж Хыстос найвыразьней загадаў: «Не супраціўляйцеся злу» (Мат. V, 39). Вось-жа загадаў Хрыста трэба слухацца і выконваць. На гэта неабходна зазначыць, што загад Хрыста неабходна выконваць у духу навукі Хрыста — яго трэба перш добра зразумець. Не супраціўляцца злу ніколі ня можа азначаць, даць сябе апанаваць злу; таксама яно не азначае, йсьці на ўгоду са злом, ані не азначае нейкіх перагавораў са злом. Як немагчымая ўгода Бога з сатаною, так немагчымая ўгода хрысьціяніна са злом. Гаворачы аб супраціўленьні, Хрыстос мае на ўвеце толькі тое, што ёсьць так-жа злом, як помста, спрэчкі, нянавісьць і падобнае — гэтым зла не пераможаш, як агня не загасіць агнём, а толькі вадою.

Хрысьціянская этыка вымагае рашучага і бескампрамісовага выступаньня супраць зла ў імкненьні да найвышэйшага ідэалу. І хто-б словы Хрыста «не супраціўляйцеся злу» хацеў паясьняць у тым сэнсе, нібы трэба аставацца пасыўным адносна зла, гэтым-бы цяжка грашыў. Сам Хрыстос аж двойчы палаў сьвятым гневам супраць зла і з бічом у руках выганяў з ерузалімскае сьвятыні тых, што там рабілі бязчынствы. Апавядаючы народу прыповесьць аб ліхіх вінаградарох, Хрыстос пытаўся ў прысутных, што зробіць гаспадар вінаградніку з тымі ліхадзеямі, якія забівалі пасланцоў гаспадара? Людзі адказалі: «Злыдняў тых люта выгубіць, а вінаграднік свой аддасьць у арэнду іншым» (Мат. XXI, 41) І гэты адказ Хрыстос прызнаў слушным. Дык сьвятым абавязкам кожнага чалавека, а тымбольш хрысьціяніна ёсьць недапусьціць сябе ў паняволеньне, бо гэта ёсьць вялікае зло. Калі-ж яно сталася, дык неабходна ўсімі сіламі змагацца за вызваленьне. Яшчэ больш важным абавязкам ёсьць стараньне, каб недапусьціць да паняволеньня ўсяго народу, бо тут акрамя змаганьня за волю, абавязвае яшчэ загад любові бліжняга да найвышэйшае ступені, аб якой Хрыстос казаў: «Ніхто ня мае большае любові, калі хто аддае душу сваю за прыяцялёў сваіх», (Іван. XV, 13). Прыродныя правы і Божыя загады абавязваюць чалавека ўсюды і заўсёды; і ў прыватным жыцьці, і ў кругу свайго асяродзьдзя, у грамадзкім жыцьці, і ў міжнародных адносінах.

Ідэалы, якія Хрыстос паказаў людзям, ёсьць вышэйшымі і больш вартаснымі, як дачаснае жыцьцё, дык калі-б за іх ажыцьцяўленьне трэба было рыскаваць жыцьцём, неабходна быць гатовым і да гэткае вялікае ахвяры. «Бо лепш нам памерці ў змаганьні, як бачыць ліхую долю нашага народу і сьвятыняў» (I. Макаб. III, 59), казалі браты Макабэі вядучы народ у вызвольны бой.

Уканцы варта падчыркнуць тое, аб чым ужо ўспаміналася перш, што зьявішча паняволеньня народаў ёсьць вынікам надужыцьця чалавекам сваіх магчымасьцяў у апанаваньні прыроды, падобна як грэх ёсьць вынікам надужыцьця вольнае волі. І як грэх завяртае чалавека са шляху ідэалу, пазбаўляе вечнага шчасьця, агляданьня Бога, падобна і паняволеньне ствара нязьлічаныя перашкоды ў разьвіцьці людзкіх здольнасьцяў у асягненьні ідэалу. Дзеля гэтага як супраць аднаго, так і супраць другога чалавек мусіць выступаць з усёю рашучасьцю.

**Барыс Ю—ч**

# Божыя пляны адносна чалавека

Назіраючы прыроду, вывучаючы сусьвет, усюды знаходзім парадак, рознаякасьць, гармонію і хараство. Глянь яснай ноччу на неба, усыпанае зорамі і зоркамі, колькі там хараства! А даведайся дакладней аб будове і рухах тых нязьлічаных зораў і будзеш падзіўляць цудоўны лад і парадак у нябесных прасторах і нявымоўную гармонію. Толькі сьляпы ня ўбачыць ўсяго гэтага! А калі раніцай узыходзіць сонца і, паволі падымаючыся ўвысь, апранае ў свае прамяністыя шаты неба і зямлю дык чалавек дзіву даецца і ніяк ня можа ўцяміць велічы зьявішча, хоць прыродаведы і тлумачаць, якім чынам зысьціцца гэты цуд бязьмежнае сілы і прыгажосьці. А выйдзі на поле, на сенажаць у майскі дзень і кінь вокам на палеткі, на якіх ужо рунь зямлю дзярэ, у жыта, пшаніцу прыбіраецца, а лугі травою мурожнай і кветкамі акрываюцца, раскошна ўпрыгажаючы ўсё аблічча зямлі, а ў паднябесных вышынях птушкі трыляць свае чароўныя гымны — гэта рай сярод гаротных беларускіх вёсак! А пайдзі ў лес пагудасты, у пушчу Белавескую, і ўва ўсім, што там стрэнеш, убачыш новую рознаякасьць і новую прыгажосьць. А пераедзь, пераплыві праз мора, акіян; прыглянься да яго ў ціхую пагоду, ці ў буру — зноў убачыш новыя праявы парадку, рознаякасьці, сілы і прыгаства не-да-апісаньня. Адкуль гэта ўсё? — мімаволі пытаеш сябе. Прыродаведы кажуць: ад прыроды. Але ў гэтай прыродзе, у ейных праявах і дзеяньнях ясна бачыш плян паводля якога ў сусьвеце ёсьць рознаякасьць, гармонія, прыгажосьць і парадак. Удумайся ў гэта і ўбачыш Бесканечыны Розум, Вялікую Волю і Бязьмежную Магутнасьць — Яны ўсё зьдзейсьніваюць у прыродзе паводля вялікага пляну. Таму і паўторыш з псальмапеўцам: «Толькі глупы кажа ў сэрцы сваім: няма Бога» (Пс. XIII, I).

Перадусім у чалавеку, у кожным з нас, у на-

шым розуме, у вольнай волі, праз якія мы падобны самому Богу, выяўляецца ясна Божы плян, хоць многія, седзячы ў цемры, яго ня бачаць, або ня хочуць бачыць.

Чалавек адрываецца ад матэрыі, творыць разумовыя (абстрактныя) паняцьці, у сілу якіх істотна розьніцца ад усіх іншых сатварэньняў у сьвеце. Дзякуючы свайму розуму і волі чалавек творыць навукі, пазнае вартасьць маральнага сьвету, аддаецца жыцьцю паводля яго асноваў, або супраць іх, бо-ж ён валадар сваіх дзеяньняў, а ня так як жывёла якая, каторую выключна кіруе прырода праз інстынкт. Выкарыстоўваючы магутнасьць свайго розуму, волі ды ўсіх іншых здольнасьцяў, як духовных, так і фізычных-цялесных чалавек творыць новыя культурныя вартасьці, поступ у навуцы, або наадварот, спрычыняе ўпадак самога сябе, свае душы і свайго асяродзьдзя.

Гляньма ўважна на нашу працу, працу чалавека; яна ёсьць ня толькі фізычная, матэрыяльная, але і разумовая, духовая, бо чалавек зложаны з духа і матэрыі, з душы і цела, і бяз цела ён не чалавек, а толькі душа, вышэйшы элемэнт свае істоты.

Людзкая душа, як духовая ёсьць няўмірушчая — самое паняцьце духа, яго магчымасьць ўзьлятаць над сусьветам у акце духовае разумовае працы кажуць нам аб тым, што людзкая душа не падлягае падзелу на часьці, бо іх ня мае, а дзеля гэтага і не падлягае сьмерці, бо ўмірае толькі тое, што можа раскладацца на часьці, што матэрыяльнае.

Божы плян адносна чалавека ёсьць перадусім у тым, каб ён быў чалавекам назаўсёды, а ня толькі на век дачаснасьці. Раз Бог удыхнуў у цела чалавека несьмяротную душу і злучыў яе істотна з целам так, што без душы ня можа быць людзкое асобы, дык разьдзяленьне душы і цела можа быць толькі зьявішчам часовым, бо душа адзьдзеленая ад цела гэта нешта недасканалае, як часьць па-за цэласьцю свайго быцьця. Душа пасьля сьмерці чалавека астаецца ў ненармальным палажэньні аж пакуль не адбудзецца ўваскрасеньне, калі яна зноў істотна злучыцца з тым самым элемэнтам з якім калісь тварыла асобу чалавека да часу свае разлукі праз сьмерць. Таму і кажуць багасловы, што сама людзкая прырода выяўляе, як ёй вельмі годзіцца ўваскрасеньне.

Пасьля гэткіх разважаньняў дзіву даешся таму, што чалавек мусіць уміраць, бо-ж яго дух, каторы ажыцьцяўляе цела, павінен натуральна утрымаць пры сабе цела і ніколі яго не пакідаць, каб супольна чыніць тое, чым чалавек ёсьць і заўсёды павінен быць — людзкою асобаю! Але вось чалавек родзіцца, расьце, разьвіваецца, дасягае сталых гадоў, потым старасьці і ўканцы паміраe. А колькі перадчасна, колькі ў маладосьці гіне ад хваробаў, ад няшчасных прыпадкаў, ад войнаў, ад разбояў!

Чаму гэта так? Ці-ж гэта такі Божы плян адносна чалавека, каб чалавек толькі на нейкі час зьявіўся на зямлі, ды ўмёр зноў? Гэта праблема, якое нельга разьвязаць бяз помачы Божае Прамудрасьці.

Бярэш у рукі Сьвятое Пісаньне і там знойдзіш разьвязку. Адтуль даведваемся, што нашы першыя бацькі былі створаны ў стане сьвятое ласкі і былі няўмірушчымі, але гэты шчасьлівы стан яны страцілі праз непаслухмянасьць Божым законам, праз грэх і праз яго сьцягнулі кару сьмерці ня толькі на сябе самых, але як бацькі людзкасьці на ўвесь людзкі род.

Але грэх ня зьнішчыў Божых плянаў адносна чалавека. Як чытаем у той-жа сьвятой кнізе Быцьця, Бог пасьля пакараньня людзей за грэх абяцаў паслаць ім Збавіцеля, каторы збавіць людзкі род ад сьмерці, але ўжо не ад фізычнай, а ад маральнай, духовай і адчыніць дзьверы да вечнага Валадарства.

Пракорокі прадсказвалі Яго прыход і апісвалі ў якіх абставінах ён меў зьдзейсьніцца. Пасьля доўгіх стагодзьдзяў проroцтвы збыліся і Слова сталася целам і прабывала між намі. Сын Божы праз тайну ўчалавечаньня стаўся Богачалавекам. Ён жыў, працаваў, навучаў людзей, тварыў вялікія цуды, потым цярпеў, умёр на крыжы дзеля збаўленьня сьвету, але ўканцы ўваскрос — устаў з гробу пераможцам! Гэта ня ўсё. Ён устанавіў сьвятыя Тайны і заснаваў сьвятую Царкву-Эклезію, у якой і астаюцца гэтыя Тайны і Яго Эвангельле для сьвятла, праўды, моцы і духовае надпрыроднае сілы для ўсяго сьвету. Вось гэта і ёсьць Божы плян для людзкасьці!

Апостал Павал крэсьліць яго так: «Ён (Бог) выбраў нас у Ім (у Хрысьце) яшчэ да стварэньня сьвету, каб мы былі сьвятымі і беззаганнымі перад Ім у любові, прызначыўшы ўсынавіць нас Сабе праз Ісуса Хрыста паводля добразычлівасьці Свае волі, на хвалу славы ласкі Свае, каторую Ён уласкавіў нас ва ўмілаваным Сыне Сваім» (Эфэз. 1, 4—6).

Разьбяром сказ за сказам гэты плян.

### А. — Бог выбраў нас у Хрысьце яшчэ да стварэньня сьвету.

Адкуль-жа Павал ведае гэтую праўду?

На пачатку артыкулу мы падзіўлялі Божы плян у прыродзе, у чалавеку, ў нас самых. Вучоныя шмат дзіваў вычытваюць у «кнізе прыроды». І хто глыбей учытваецца ў гэтай «кнізе», пазнае дакладней і ясьней, што Стварыцель ёсьць вялікім дабрадзеем для чалавека, што за гэта Яму належыцца ўдзячнасьць, найбольшая слава і вернае выконваньне Ягоных вечных загадаў. І вось далей нашым розумам ня сягнеш, але тут прыходзіць сьвятое Аб'яўленьня, якое ў Новым Запавеце прынёс сам Сын Божы Ісус Хрыстос, а потым апоста-

лы. Дык апостал Павал гаворыць не ад сябе, але з Аб'яўленьня, з натхненьня Сьвятога Духа. За плянам Божым у прыродзе ап. Павал бачыць Божы плян; па-за прыродай, ён бачыць надпрыродны сьвет, які існуе ад вечных вякоў у самай Божай Прамудрасьці.

«Бог выбраў нас у Хрысьце» гэта значыць, што мы так шчыльна і неадлучна зьвязаны з асобаю Хрыста, што бяз Хрыста — мы нічога. Бог зямлю стварыў для чалавека, але так-жа для чалавека не бяз Хрыста! Значыць і стварэньне сьвету было ўплянована ў Хрысьце, але ў лучнасьці з чалавекам, бо толькі чалавек, істота абдараваная розумам, можа пазнаць гэтую лучнасьць і быць дабравольна з Хрыстом і ў Хрысьце, і праз сваю людзкую істоту, што ёсьць вянцом Божага тварэньня, увясьці ў гэтую лучнасьць усе іншыя істоты і любіць ды славіць Бога за іх таксама. Уканцы артыкулу будзе дакладнейшае выясьненьне, якім чынам Бог нас выбраў у Хрысьце.

### Б. — Каб мы былі сьвятымі і беззаганнымі перад Ім у Любові.

Бог выбраў нас у Хрысьце ўласьціва для таго, каб мы былі сьвятымі і беззаганнымі, бо-ж усякая нясьвятасьць, сказа, спагуда, грэх — усё гэта праціўна Богу і пярэчыць Яго бытаваньню. Грэх сам па сабе ёсьць супраць усяго таго, што Божае — супраць Божае Прамудрасьці, Дабраты, Справядлівасьці і ўсіх атрыбутаў. Каб гэта было магчыма, дык-бы грэх ураз зьнішчыў усё божае, самога Бога. Галоўная мэта, дзеля якое мы створаны, гэта каб стацца сьвятымі і беззаганнымі перад Богам.

Але што-ж такое сьвятасьць? У паняцьце сьвятасьці ўвайходзяць такія элементы: ня мець ніякае сказы, ніякае заганы — гэта нэгатыўнае азначэньне, а пазытыўнае азначэньне сьвятасьці — гэта быць дасканала згодным з найвышэйшымі маральнымі законамі. Адгэтуль зразумела, што Бог як найвышэйшны закон у Сабе і таму што Яго воля найбольш згодная з усемі дасканаласьцямі — ёсьць самою Сьвятасьцю. А таму, што нас Бог выбраў для сябе, дык тым самым выбраў нас так-жа для сьвятасьці, каб мы ўсе былі сьвятыя і беззаганныя, захоўваючы Божыя законы і загады і каб узбагачваліся ў хрысьціянскія цноты.

### В. — Прызначыўшы усынавіць нас Сабе праз Ісуса Хрыста.

Ведаем, што значыць усынаўленьне сярод людзей, калі муж і жонка дзеля безьдзетнасьці, ці дзеля іншых прычынаў бяруць сабе якую сірацінy, вырабляюць адпаведныя дакуманты, паводля вымогаў закону, запісваюць яе на сваё прозьвішча і пасьля гэтага ўважаюць дзіця за сваё. Але людзкое ўсынаўленьне — гэта нешта вонкавае, фармальнае; бацькі ня могуць даць усынаўленаму дзіцяці свае натуры, сваіх свомасьцяў, як гэта чыняць сапраўдныя бацькі. Інакш маецца справа з Божым усынаўленьнем. Калі Бог усынаўляе людзей, дык дае Сваю ласку, праз якую чалавек удзельнічае ў Божай натуры. Багасловы так і кажуць: Божая ласка гэта ўдзел у самой Божай прыродзе. Дзеля гэтага Божае усынаўленьне зьяўляецца ня чымсьці вонкавым, але зусім унутраным. Ня дзеяцца яно праз эманацыю, бо гэта быў-бы недарэчны пантэізм, але праз тварэньне Божых рук. Таму гаворыць ап. Павал, што той, хто ёсьць у Хрысьце праз Божую ласку, той есьць новым сатварэньнем (II Кар. V, 17). Праз Божую ласку чалавек увайходзіць у надпрыродны сьвет як дзіця Бога.

Праз усынаўленьне мы сапраўдныя дзеці прэсьвятое Тройцы ўнутраным спосабам і чынам, таму і на правах сапраўдных дзяцей датычна сапраўднага Айца; што Яго, то-й наша. Яго-ж самая бязьмежная Дасканаласьць, бязьмежная Сьвятасьць Прамудрасьць, Любоў, вечнае Шчасьце, безгранічнае Жыцьцё-Быцьцё. Таму ўсё гэта й наша: Праўда Дабро, Шчасьце, але-ж вядома, спосабам абмежаваным у нас самых, бо што ўспрыймаецца, дык успрыймаецца паводля магчымасьці таго, што, або хто ўспрыймае. Больш вады ў моры, чым у возеры! Больш дараў Божых у чалавеку, чым у жывёле, а ў гэтай апошняй больш чым у расьліне і так далей. Усе Божыя творы могуць умясьціць больш, або менш Божых дараў, але няма такое істоты на сьвеце, нават між найвышэйшых Божых сатварэньняў, каторая-б магла ўспрыняць Божыя дары бязьмежным чынам, успрыняць усяго Бога, бо гэта пярычыць самому паняцьцю Бога і парадку рэчаіснасьці. Як Бог ня можа стацца сатварэньнем, так сатварэньне ня можа стацца Богам. Гэта так немагчыма, як квадратнае кола. Аднак псальмапевец зьвяртаецца да нас: Вы багі (Пс. LXXXI, 6). І ён тут не насьміхаецца з нас, а гаворыць праўду, таму, што мы сатвораны на абраз і падабенства Божае і таму, што Сын Божы стаўшыся Богачалавекам, быццам абагатварыў людзкасьць, і так-жа таму, што праз сьвятую ласку мы маем вялікія дары і ўдзельнічаем у самой Божай натуры. Аднак усюды: і атрымаўшы вялікія дары праз Божую ласку і нават удзельнічаючы ў Божай натуры, чалавек заўсёды астаецца абмежаваным сатварэньнем рук Адзінага Бога. Аднак чым больш чалавек становіцца сьвятым і беззаганным, тым больш стае падобным Богу!

### Г. — Праз Ісуса Хрыста.

Калі першы чалавек зграшыў, Бог яму мог дараваць праступак і вярнуць права да Неба, але тады ніколі ня было-б поўнага спамернага задаволеньня Божае Справядлівасьці за нашы грахі, хоць-бы няведама як чалавек каяўся за грахі. Чаму? А вось прыклад, каторы можа да пэўнае

ступені выясьніць гэтую праўду. Калі дзеці пасварацца між сабою і калі брат абразіць сястру ці брата, дык яго правіна ня будзе такою вялікай, як калі-б ён абразіў сваіх бацькоў. І дзіця па закону мусіць зрабіць шмат больш, каб даць задаволеньне абражаным бацьком, суразьмерна з іх асобамі, чым для таго, каб перапрасіць сваіх братоў. Веліч абразы залежыць ад большае, ці меншае годнасьці абражанае асобы. А тут вось праз грэх прабацькоў быў абражаны бязьмежны Божы Маестат. Таму і вымагала справядлівасьць, каб Богу было данае бязьмежнае задосыцьучыненьне. Але хто-ж яго мог даць? Не чалавек, хоць ён і зграшыў, бо-ж ён як абмежаваная істота мог рабіць толькі абмежаваныя ўчынкі. А тут справядлівасьць вымагала ад людзей задосыцьучыненьня Божаму Маестату суразьмернага з годнасьцю гэтага-ж Маестату. Праблема людзкога збаўленьня была не да разьвязаньня! Але Бог сваёю Прамудрасьцю яе разьвязаў. Якім чынам? Праз учалавечаньне Свайго Адзінароднага Сына! Ён стаўся Богачалавекам, прыняў істотным спосабам да Свае Божае Асобы людзкую натуру. Адгэтуль усе Яго дзеяньні будуць браць свой пачатак ад Яго Боскай Асобы і праходзіць праз людзкую прыроду; ад гэтага мамэнту Ён будзе дзеяць як праўдзівы Бог і як праўдзівы чалавек і ўсе яго дзеяньні, нават найменшыя, будуць мець бязьмежную вартасьць, бо будуць дзеяньнямі Яго Боскае Асобы. Ведама, што дзеяньне набірае важнасьці ад асобы, асоба-ж Хрыста ёсьць безгранічная, дык гэткія-ж Ягоныя дзеяньні. Такім чынам адзіны Хрыстос, як Богачалавек, мог прынесьці і сапраўды прынёс суразьмернае задосыцьучыненьне Богу за нашыя грахі. І тут была задаволеная Божая справядлівасьць; мы зграшылі і даём задысыцьучыненьне, але ня мы самі, а праз Богачалавека. Дык усё праз Ісуса Хрыста!

**Д. — Па добразычлівасьці волі Свае.**

Бог Айцец паслаў нам Збавіцеля не па прымусу, але выключна па бязьмежнай сваёй міласэрнасьці к нам. Да гэтага чыну Яго ніхто і нішто не магло змусіць, бо інакш Ён ня быў-бы Богом. Ён стварыў сусьвет, але мог яго не тварыць; паслаў нам Збавіцеля, але мог не пасылаць, а калі так зрабіў, дык толькі і выключна па сваёй свабоднай Волі і па сваёй добразычлівасьці, бо панад Богам няма ніякае сілы і прычыны, што маглі-б Яго спанукаць да дзеяньня. Прычына Божага дзеяньне ёсьць у Ім Самым. Бог, як найдасканалейшая істота ёсьць бесканечна шчасьлівы, да таго Ён ёсьць бесканечная Любоў, дзеля гэтага Ён хацеў, каб іншыя істоты ўдзельнічалі ў Ягоным шчасьці, дык стварыў разумныя істоты, ангелаў і чалавека, а калі чалавек праз грэх пазбавіў сябе магчымасьці ўдзельнічаць у Божым шчасьці, дык Бог паслаў Збавіцеля дзякуючы сваёй бесканечнай добразычлівасьці, каб чалавек усё-ж такі мог асягнуць шчасьце ў небе.

**Е. — На хвалу ласкі Свае.**

Тут гаворыцца аб збаўчай ласцы. Хрыстос заслужыў яе нам праз Сваю сьмерць на крыжы і той, хто яе мае і захавае аж да сьмерці, будзе збаўлены. На гэтым сьвеце Божая ласка ў нашых душах робіць нас сьвятыняю, у якой прабывае Дух Божы. А з Хрыстом і Сьвятым Духам чалавек ёсьць спакойным і магутным. Тады Дух Сьвяты сваім натхненьнем кіруе людзкімі ўчынкамі, а Хрыстос спамагае іх. І дзеяньне чалавека тады йдзе выключна ў тым кірунку, каб усюды і заўсёды ўславіць Бога.

Але-ж Бог мусіць вельмі самалюбны, можа заўважыць хтосьці, калі патрабуе, каб Яго ўсюды славілі. Гэткая заўвага можа быць слушнаю толькі адносна самалюбных людзей, але ніколі адносна Бога і так гаварыць аб Богу нельга! Бо, што такое слава, хвала? Вялікі філёзоф і багаслоў сьв. Тамаш Аквінат азначае яе так: яснае пазнаньне з пахваленьнем. Гэта значыць, калі чалавек пазнае якія дасканаласьці, тады і хваліць і славіць іх. І кожная сапраўдная дасканаласьць заслугоўвае на пахвалу. Чалавек, што мае духовыя і маральныя дасканаласьці так-жа заслугоўвае на пахвалу, але трэба, каб яго хвалілі другія, а не сам сябе. Зусім інакш маецца справа з хваленьнем Бога. Бог ёсьць крыніцай усіх дасканаласьцяў. Апулам існаваньне сусьвету залежыць выключна ад Бога і без Яго ўвесь сусьвет вярнуўся-б у нішто! Дык хваліць і славіць Бога, значыць любіць вечную Праўду, бязьмежную Дабрату, сьвятую Справядлівасьць, безгранічную Міласэрнасьць. І калі разумная істота славіць і хваліць Бога, дык праз гэтае самае яна асягае ўсякія дасканаласьці — праўду, дабро, любоў прыгажосць і сьвятасьць, ды ўсё іншае, што паходзіць ад Бога і ёсьць карыснае як для асабістага, так для грамадзкага і сацыяльнага жыцьця. Богу нічога ня трэба; Ён-жа крыніца быцьця, жыцьця і ўсякіх дасканаласьцяў! І толькі дзеля таго Ён хоча, каб мы хвалілі і славілі Яго, бо праз гэта чалавек асягае дабрабыт і шчасьце тут на зямлі і ў загробным жыцьці. Вось дзе сэнс і значэньне славы і хвалы Божае ад сатварэньняў.

**Ж. — Каторай Ён уласкавіў нас ва ўмілаваным Сыне Сваім.**

Як ужо было ўспомнена, ласка Божая гэта ўдзел у самай натуры Божай. Праз ласку чалавек становіцца сапраўдным сынам Бога праз усынаўленьне, а ласку для нас выслужыў Хрыстос, дык Хрыстос ёсьць цэнтрам пляну Божага адносна чалавека. Так як уплянаваў Бог сатварэньне сьвету праз Свайго Сына-Слова гэтак-жа праз Сына ўплянаваў збаўленьне людзей. Сьв. эвангеліст Іван кажа на пачатку свайго Эвангельля: «На пачатку было Слова... і ўсё праз Яго сталася і

без Яго нічога ня сталася з таго, што сталася». Вось-жа яшчэ да сатварэньня сьвету Сын Божы быў цэнтрам пляну Божага, а калі нарэшце зьдзейсьніўся плян Божы адносна чалавека, калі Слова Божае сталася целам і жыло між намі, ад тады ўжо тое Слова як Богачалавек Ісус Хрыстос стаецца цэнтрам усяго нашага збаўленьня. Ён, Сын Божы ёсьць наш Збавіцель, Брат і Спадарожнік, адначасна Ён Дарога Праўда і Жыцьцё.

Бог выбраў нас у Хрысьце перад тым як быў створаны сьвет, каб мы былі сьвятыя і без заганы перад Ім у любові і пастанавіў усынавіць нас праз Ісуса Хрыста па дабраце свае Волі, на хвалу Свае ласкі, каторою Ён уласкавіў нас у Сваім Сыне. Дык нам не астаецца нічога іншага, як выкарыстаць усе Богам даныя нам сілы і магчымасьці, каб асягнуць, жаданыя Богам, дасканаласьці.

**а. Янка Тарасэвіч.**

# Нябачны дзейнік

У меру таго, як навука йдзе ўпярод, выкрываецца ў сьвеце штораз больш рэчаў і зьявішчаў, аб існаваньні якіх калісьці людзі зусім не дагадваліся, бо іх не адчуваюць нашыя змыслы. Векавечна ўвесь сусьвет пранізвалі касмічныя праменьні, але людзі даведаліся аб іх толькі пасьля 1909 г. Ад вякоў разам з сонечнымі праменьнямі йдуць да нас ультрафіялетавыя і інфрачырованыя праменьні, але пачалі іх разрозьніваць толькі пасьля 1800 г. Таксама маецца справа з электромагнэтычнымі, катэдовымі (1876), рэнтгэнавымі (1895), радыёактыўнымі (1899) да шматлікімі іншымі праменьнямі. Падобна было і з гукавымі хвалямі; толькі нядаўна людзі даведаліся аб існаваньні ўльтракароткіх хваляў, якіх хістаньні ёсьць большыя чым 20.000 на сэкунду, бо адносна іх людзкое вуха глухое. Словам дзякуючы поступу навукі выяўляецца, што людзкія змыслы вельмі абмежаваныя і таму сёньня ўжо ніхто ня сумняецца, што ў прыродзе ёсьць шмат больш зьявішчаў і рэчаў, як аб гэтым могуць сьведчыць нашы змыслы.

Добра, але якое значэньне мае для нас усё тое, чаго ня ўспрыймаюць і не адчуваюць нашы змыслы? Значэньне іх шмат большае, чым-бы на першы пагляд магло здавацца і да таго яшчэ ня ўсё іх значэньне выкрыта. Як вялікае значэньне тых, дзейнікаў, адносна якіх змыслы ня чулыя, можа выясьніць такі прыклад. Уканцы мінулага стагодзьдзя ў Нью Ёрку запраектавана выбудаваць аграмадны дом для сьляпых. Практычны інжынер, казаў, што сьляпым, якія зусім сьвету ня бачаць, ня варта і вакон рабіць. І выбудавана дом без вакон. Сьляпыя, пажыўшы некалькі месяцаў у цёмным доме, пачалі масава хварэць, а потым уміраць. Лекары спачатку ламалі сабе галаву, што за новая хвароба косіць сьляпых? Але хутка выявілася, што прычынаю хваробы была нястача сьвету. Сьпешным парадкам у доме пароблена вокны і сьляпыя хоць сьвету ня бачылі, але хутка аздаравелі. Падобна маецца справа і з тымі нябачнымі праменьнямі; адны з іх шкодныя для жывых арганізмаў, як: радыёактыўныя, ультрафіялетавыя і касмічныя, а іншыя больш-менш абыякавыя, іншыя-ж могуць успамагаць жыцьцёвыя працэсы, як: мітогэнэтычныя і электромагнэтычныя праменьні. Напрыклад, чалавек сплючы галавою да паўночнага магнэтычнага полюсу, значыць раўналегла да праменьняў зямнога магнэтызму высьпіцца лепш, чым ува ўсякім іншым палажэньні.

Падобныя адкрыцьці ў акружаючай нас прыродзе множацца штораз больш і людзі з цікавасьцю чакаюць іх ды ўспрыймаюць амаль без засьцярогаў.

Калі ў прыродным парадку ёсьць так шмат мала ведамага для чалавека і загадкавага, дык ці можна дзівіцца, што ў надпрыродным парадку тымбольш ёсьць шмат і нават вельмі шмат няведамага для людзей, але ад чаго можа вельмі і вельмі залежаць людзкое жыцьцё. Хоць гэтае разважаньне зусім лягічнае, але да яго сёй-той можа аднесьціся з засьцярогаю, бо прыродныя нават сусім нябачныя дзейнікі можна выявіць рознымі прыладамі, а вось адносна надпрыроднага сьвету няма ніякіх прыладаў. Іх можа выявіць і ацаніць толькі людзкі розум, але таму што ён мае тую слабасьць, што можа быць забудзькаватым, дык ня дзіва, што нават тыя людзі, якія не пярэчаць існаваньня надпрыроднага сьвету, могуць стацца абыякавымі адносна яго. Колькі людзей у штодзенным жыцьці паводзіцца так, быццам нічога над чалавекам няма?! Толькі калі прыходзіць якое няшчасьце, скіроўваюць свой зор да неба. А тымчасам з усяго, што існуе на сьвеце, той надпрыродны сьвет для чалавека ёсьць найважнейшым.

Чалавек у сваім жыцьці кіруецца ідэямі і думкамі. Перш чым нешта зрабіць, абмяркоўвае, пляңуе, а калі сам чаго ня можа прыдумаць, пытаецца ў іншых, шукае рады; таму і кажа народная мудрасьць: «Ня цяжка зрабіць, а цяжка здумаць». Бо і сапраўды: думкі прыходзяць чалавеку няма ведама адкуль. На сьвеце няма такіх капальняў, ці фабрыкаў, дзе-б можна было здабыць добрыя і шчасьлівыя думкі. Звычайна ў гутарках кажацца, што гэта розум чалавека ёсьць крыніцаю думак, але-ж розум і мазгі мае кожны чалавек, аднак ня кожны мае тыя думкі, якія жадаў-бы мець. Чаму так ёсьць на сьвеце? Ясны адказ знайходзім у катэхізьме. Там найвыразьней кажацца, што розум і мудрасьць разам з ведаю,

радаю, мужнасьцю, пабожнасьцю і богабойнасьцю — ёсьць дарамі Сьвятога Духа. Дары, як аб гэтым сьведчыць самое слова, ёсьць дарункамі, якія атрымоўваем задарма. Пры тым дары Сьв. Духа ня могуць быць чым іншым, як дарункамі, бо яны даражэйшыя за ўсе скарбы сьвету, дык купіць іх нельга ды і няма дзе, бо яны ёсьць уласнасьцю Бога — Уладара сусьвету; Ён для Сябе нічога не патрабуе і калі што дае людзям, дык выключна паводля Свае бесканечнае добразычлівасьці.

З аб'яўленьня ведаем, што Бог не шкадуе сваіх дараў для людзей. Ён раздае іх ня толькі для добрых, але нават і для дрэнных, як аб гэтым з асаблівым націскам гаворыць Хрыстос: «Ён загадвае свайму сонцу ўсходзіць над добрымі і благімі і пасылае дождж на справядлівых і несправядлівых» (Мат. V, 45). Але ня ўсіх Бог абдароўвае ў аднолькавай ступені. У прыповесьці аб талантох Хрыстос кажа, што аднаму было дана «пяць талантаў, другому два, іншаму адзін — кожнаму паводля сілы яго» (Мат. XXV, 15).

Калі прыродныя нябачныя дзейнікі маюць вялікае значэньне для чалавека, дык ня дзіва, што яшчэ большае значэньне маюць надпрыродныя дзейнікі. Яны для дачаснага жыцьця, а тымбольш для жыцьця вечнага маюць большую вартасьць, чым найбольшыя скарбы і дастаткі сьвету, дык і цаніць іх трэба адпаведна да іхняе вартасьці. У кожнай справе; так у асабістым жыцьці, як ва ўзаемных дачыненьнях і грамадзкіх адносінах дары Сьвятога Духа ёсьць тым нябачным дзейнікам, ад якога найбольш залежыць тое, чым мы ёсьць сёньня і чым будзем у будучыні, а так-жа і тое, што мы маем сёньня і што мы і ўвесь народ будзем мець у будучыні. Дзеля гэтага в такім глыбокім перакананьнем сьпяваў псальмапевец аб Божай апецы: «Хто жыве ў помачы Найвышэйшага, усяліцца ў засені Бога нябес» (Пс. XC, 1). А Сам Бог вуснамі таго-ж псальмапеўца запэўнівае:

Чуй, што Бог кажа: Хто Мяне мілуе,
І Маё Імя хто шчыра шануе,
Я таго так-жа вечна не забуду,
У горы ўсялякім памагаці буду.

Калі мы ўсьведамім сабе гэтую важную праўду і будзем зьвяртацца да Бога з вытрывалаю просьбаю, каб меў нас у Сваёй апецы, дык бязумоўна Ён не паскупіць для нас Сваіх дараў.

**а. Л. Гарошка.**

# Выкананае, ці нявыкананае пасланство?

Ад некаторага часу ў вольным сьвеце можна пачуць галасы з запытаньнем: ці Царква выканала сваё пасланство? Гэта так важнае пытаньне, што зусім слушна заслугоўвае на агульную ўвагу. Але каб адказаць на яго, трэба перш ясна ўсьведаміць пасланство Царквы.

Для чаго заснаваў Хрыстос Сваю Царкву? Перадусім для таго, каб праз Яе прадаўжаць сваю збаўчую дзейнасьць; Царкве Ён перадаў уладу распараджацца Сваею Ласкаю праз сьвятыя Тайны, Царкве даручыў скарб Свае навукі і адначасна забавязаў Яе несьці гэтую навуку па ўсім сьвеце. Як бачым, найбольшая вартасьць Царквы ляжыць у тым, што Яна вядзе чалавека да вечнага жыцьця. Але туды дарога йдзе праз дачаснае жыцьцё, дык і тут Царква мае вялікае значэньне нават у чыста дачасных справах.

І сапраўды дабрадзейны ўплыў Царквы можна бачыць даслоўна на ўсіх галінах людзкога жыцьця і культуры. Увесь поступ культуры і цывілізацыі ў сваіх пачатках непадзельна зьвязаны з царкоўнымі ўстановамі — гэта Царква засноўвала першыя школы, першыя ўнівэрсытэты; Царква тварыла першыя дабрадзейныя арганізацыі; Царква ўплывала на злагоджаньне старажытных жорсткіх законаў; пад уплывам царкоўнае навукі паволі зьнікала рабства. — Усё гэта праўда, але падзеі з апошніх двох стагодзьдзяў і асабліва з апошніх сусьветных войнаў даюць нязьлічаныя факты, што людзі азброіўшыся сваімі навейшымі вынахадамі і апанаваныя нянавісьцю да сваіх бліжніх, бязьлітасна руйнавалі асягненьні папярэдніх вякоў і стараліся выкараніць з людзкое душы ўвесь дабрадзейны ўплыў рэлігіі і Царквы. Сацыяльныя адносіны ў сучасных дзяржавах сталіся паважнаю балячкаю і з гэтага гледзішча нават у тых краінах, дзе Царква існуе ўжо ад першых стагодзьдзяў, народы церпяць амаль таксама, як і ў няхрысьцянскіх краінах.

Чаму так дзеецца?

Царква ня мае і ня можа мець нейкіх сродкаў, каб чалавека сіламоць цягнуць на жыцьцёвы шлях, які паказаў Хрыстос, бо шануе людзкую асобу і свабодную волю, якую даў чалавеку сам Бог. Царква, падобна як маяк асьвятляе правільны шлях сярод цемры дачаснага жыцьця, але ня зьбіраецца нікога цягнуць туды на пастронку. Толькі адзіная Хрыстова Царква мае ясныя адказы на самыя асноўныя пытаньні жыцьця: Адкуль ідзе чалавек? Куды ён ідзе? Які сэнс і мэта людзкога жыцьця? Толькі ведаючы ясныя адказы на гэтыя пытаньні, магчыма разумна плянаваць сваё жыцьцё, але чалавека ніхто ня прысілуе прыняць нават найбольш ясную праўду, бо маючы свабодную волю, ён заўсёды мае магчымасьць або йсьці тым шляхам, які паказвае Царква, або блукацца па бездарожжах і багнах, у якія заводзяць розныя фальшывыя прарокі і слугі цемры. Але праз тое,

што нехта ня прымае праўды, ці яна траціць нешта са свае вартасьці? Ні трохі! Калі нехта сыходзіць з дарогі і пачынае блукацца, ад гэтага дарога ня траціць нічагусенька, а траціць толькі той, хто йдзе на бездарожжа.

Гэтага кароткага выясьненьня было-б даволі, каб адказаць на пастаўленае перш пытаньне, што Царква выконвала і выконвае сваё пасланство. Але гэтае выясьненьне ня зусім поўнае, бо ўсё-ж ёсьць факт, што за 19 стагодзьдзяў хрысьціянскае прапаганды яшчэ больш палавіны насельніцтва зямное кулі ня ведае хрысьціянства; горш таго, большая частка тых, што называюцца хрысьціянамі, жывуць непахрысьціянску, а часам горш як па-паганску. Дык ці няма якое важнае нястачы ў Хрыстовай Царкве? Нястача ёсьць, але не ў Царкве, а ў людзях. На людзей могуць уплываць і добрыя і дрэнныя дзейнікі. На ўшчэпленай яблыні могуць вырасьці прыгожыя яблыкі, але нават найпрыгажэйшыя яблыкі могуць патачыць рабакі, але праз гэта самое дрэва не перастане быць добрым. Так і ў Царкве побач сьвятых могуць быць нядбалыя вернікі і праклятыя, яны аднак нічуць не зьмяншаюць вартасьці Царквы. Калі авачы на дрэве ня маюць магчымасьці бараніцца ад рабацтва, дык людзі ў Царкве маюць нявычарпаныя магчымасьці знайсьці падтрыманьне сваіх сілаў у перамаганьні злых нахілаў і спакусаў, да гэтага трэба толькі карыстацца тымі сродкамі, якія дае Царква, але нікому іх нельга даць сіламоц.

Уканцы яшчэ неабходна зьвярнуць увагу на адну вельмі важную азнаку Царквы. Звычайна ўсюды гаворыцца, што Хрыстова Царква ёсьць адною з найстарэйшых установаў у сучасным сьвеце, бо існуе 1953 гады — гэта праўда, але Царква ёсьць адначасна заўсёды новаю. У адной з прыповесьцяў аб Нябесным Валадарстве Хрыстос казаў: «Нябеснае Валадарства падобнае ла закваскі, якую жанчына ўзяўшы ўлажыла ў тры меркі мукі, пакуль усё ня ўкісьне» (Мат. XIII, 33). І вось закваска Хрыстовае навукі астаецца ў Царкве заўсёды, але мука сыплецца безнастанна новая і новая. Часам валіцца яна так масава, што можа здавацца, быццам з гэтага ніякага талковага цеста ня будзе, але прайходзяць гады, часам нават стагодзьдзі, і закваска робіць сваё — дзікія народы паволі пераймаюцца духам Хрыста. Гэта яшчэ ня ўсё; штодня, штохвіліны ўвайходзяць у Царкву новыя вернікі праз сьвятое Хрышчэньне; іхняе ўзгадаваньне трэба пачынаць з самага пачатку — праз гэта Царква астаецца вечна новаю, але нажаль з паважнаю колькасьцю вернікаў, якія занядбоўваюць сваё ўзгадаваньне і часам толькі пад уплывам жыцьцёвых навальніцаў, або і катастрофаў пачынаюць апамятвацца і пачынаюць ахвотна ўспрыймаць хрысьціянскую закваску.

Калі пасьля ўсяго вышэй сказанага спробуем адказаць на пастаўленае ў пачатку артыкулу пытаньне, дык можна сказаць, што гэтае пытаньне агулам перадчаснае, бо місія-пасланство Царквы заўсёднае. Пакуль будуць жыць на сьвеце людзі датуль ня скончыцца місія Царквы; Ёй з волі Хрыста будзе заўсёды неабмежаванае полле дзейнасьці ўва ўсіх галінах людзкога жыцьця, а чалавек будзе заўсёды мець свабоду, або блукацца ў цемры, або йсьці сьвелым шляхам, паказаным Хрыстом, праз Царкву.

**а. Л. Гарошка.**

# САКРЭТ УДАЧЫ

Цяжкае жыцьцё складалася для Макара. У спадку па бацьку ён атрымаў усяго вузенькі загон поля і невялікі кусок сенажаці. Людзі спачувальна раілі Макару наняцца ў батракі у паблізкім маёнтку, каб ня ўмерці з голду, але Макар плянаваў інакш наладзіць сваё жыцьцё.

— Служыць ані я, ані жонка нікуды ня пойдзем — адказваў Макар — а хлеба прыдбаем сабе працаю. Дзеці ў нас галадаваць ня будуць.

А жонку Макар пацяшаў:

— Лепш мець кусок чорнага сухога хлеба з пахам салонага поту, але спажываць яго на волі, чым баханак сітніцы з панскіх рук.

Жонка з даверам глядзела на яго і дадавала:

— Да твайго поту і я не пашкадую сваіх крывавых мазалёў.

І яны абое працавалі не пакладаючы рук і праца ў іх спорылася, і нават капейка завялася.

Даведаўся Макар, што за мілю ад вёскі збанкрутаваны пан, выцерабіўшы лес, прадаваў пасеку, дык пайшоў разам з іншымі аглядаць яе. На пасецы тырчалі толькі карчы ў жоўтым пясочку, але як ня было нідзе нічога лепшага, дык наважыўся купіць сабе дзьве дзесяціны пасекі; дзьве дзесяціны пяску, як казалі насьміхаючыся багацейшыя гаспадары. Днаваў там і начаваў, выцягваў корч за корчам, а восеньню на выкарчаванай пасецы ішоў горда за плугам па сваёй новай ніве. Суседзі дзівіліся, як ён здолеў упраўіцца з карчаваньнем, а Макар маўчаў і з непахіснаю ўпэўненасьцю прадаўжаў сваю працу.

На наступны год пасека зьмяніла сваё аблічча, яна сталася прыгожай жытняй нівай. На навіне, хоць і на пясчанай, збожжа ўсюды парасло добрае, але праз некалькі далейшых гадоў ужо амаль палавіна пасекі ляжала пералогам, толькі на макаравым куску год-у-год спакойна гойдался каласітае збожжа, зелянелі загоны бульбы.

Сусед, гледзячы на Макара, стараўся, каб і ягонае поле ня было горшае, але калі раз летам лушчыў пожню, а над канём хмарай віліся авадні, уканцы плюнуў на загон, конь, пачуўшы, што

гаспадар пусьціў лейцы, шмыгануў з усіх сіл разам з плугам у паблізкі лес, пакідаючы за сабою доўгую ўкосную разору, і ад таго часу больш на пасеку не паказваўся. Кожны раз, як Макар агглядае сваё поле і прайходзіць каля тае ўкоснае разоры ,плюе са злосьцю і прыгаворвае:

— Так, чалавеча, цябе ня толькі авадні, але і вошы заядуць. Сам хлеб да цябе ніколі ня прыйдзе.

У цяжкай працы Макар і сам не заўважыў, як ён стаўся адным з паважнейшых гаспадароў у вёсцы. Неспадзеванкаю было для яго, калі вясковы сход выбраў яго старастаю. Падзякаваў Макар грамадзе і пайшоў дамоў, а праз тыдзень ужо склікаў новы сход і абвесьціў, што будзе спаганяць стары залёглы доўг з вясковага карчмара Янкеля, за арэндаваньне карчмішча і што за тыя грошы варта будзе пабудаваць цэркаўку на вясковым магільніку.

— Хутчэй ты сябе за локаць укусіш, як з Янкеля старую арэнду зьдзярэш — заўважыў стары Мікіта.

— Вы толькі дайце мне агульнае ўпаўнаважаньне, а рэшту турботаў я бяру на сябе — запэўніваў Макар.

— Чаму-ж ня даць такога ўпаўнаважаньня! — Азвалася некалькі галасоў.

— Старайся Макар, а на такое дзела мы ўсе гуртам будзе памагаць — загаварылі старэйшыя гаспадары. — І на паперку з паўнамоцтвамі стаўляліся крывулі і крыжыкі. А вечарам таго-ж дня Янкель лісьліва падходзіў да Макара:

— Ну, нашто табе, Макар, дарэмныя клопаты і нашто нам варагаваць ды валачыцца па судох. Ты адно нікому нічога не кажы, я табе дам дзесяць рублёў і ґарнец гарэлкі, толькі хай гэта будзе шыта-крыта між намі.

— Не, Янкель, гэтак яно не будзе. Ты лепш бяз ніякіх адвільваньняў заплаці ўвесь стары доўг і тады будзе хораша і добра.

— Ой, Макар, ты кепскі чалавек. Ты заўзяўся на мяне ня ведама зашто і табе з гэтага дабра ня будзе.

— Што будзе, тое-й будзе; на ўсё ёсьць воля Божая, але арэнду ты заплоціш, ды яшчэ з пенаю.

Назаўтра, калі Макар ехаў у воласьць, дык Янкель ужо вяртаўся ад валаснога судзьдзі і першы пераняў яго на дарозе.

— Ой, Макар, Макар, насеўся ты на маю старую голаву...

— Вот, Янкель, ты не замаўляй зубоў і не заходзь з дзесятага панадворку. Расплаціся начыста з вёскаю, дык і твая галава будзе мець супакой і мы будзем мець карысьць, а не, дык з вёскі выкінем.

— Ну, добра, Макар! Я-ж табе казаў, што заплачу; калі я казаў, што не заплачу? Заплачу, але дзе-ж мне беднаму жыдку ўзяць адразу толькі грошаў?!

Праз колькі тыдняў у вёсцы быў нязвычайны рух. Цэлы абоз падводаў ехаў у лес па дрэва на царкву, а вясною ля магільніка кіпела работа. Мерна гойдаліся на казлох пільшчыкі, безнастанна стукалі сякеры цесьляў, а на сярэдзіне магільніка гурток старэйшых мужчын з Макарам вымяралі пляц пад царкву. Паўбіваўшы колікі і скінуўшы шапку, Макар паставіў сярод пляцу невялкі крыж і сам першы налёг на рыдлёўку, капаючы дол пад фундамант.

Стары Мікіта, пыкаючы люльку, прыглядаўся да працы і нарэшце падышоў да Макара з дакорам:

— Навошта ты грабарыш такі глыбокі дол? На добры лад, дык пад такую невялічкую будыніну і зусім ніякага фундаманту ня трэба, даволі было-б падмасьціць падваліны.

— Будаваць бяз фундамэнту на гэтым пяску, усёроўна што маліцца бяз веры; гэта была-б не работа а лартацтва.

— Вера, кажаш; гэта ведаеш, голубе, як дзе; калі трэба дзе вера, дык тады трэба, а ў гэткай рабоце і бяз яе можна абыйсьціся.

— Усюды трэба вера — моцна апіраючыся на рыдлёўку казаў Макар — бо на пяску зьняверы нічога ня збудуеш, дзьмухне вецер і ўсё панясе ў пыл. А яшчэ чым за большую справу хто бярэцца, дык тым большую мусіць мець веру ў слушнасьць свае справы і ў Божу помач, тады напэўна свайго дапне.

— Дык гэта мусіць таму табе ўсё йдзе рукою?

— А то як-жа думаў, у мяне іншых сакрэтаў няма!

— Вось яно як — ківаючы сіваю галавою прыгаворваў сам сабе Мікіта — і на старасьць яшчэ можна сёе-тое навучыцца ад добрых людзей.

**А. Жменя.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## УГОДКІ КАРАНАЦЫІ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА.

Сёлета семдзесят сёмыя ўгодкі народзін (2-III) і чатырнаццатыя угодкі каранацыі (14-III) Сьвяцейшага Айца Пія XII у Рыме азначана толькі ўрачыстаю Службаю Божаю ў Сыкстынскай капліцы, на якой прысутнічалі шматлікія ерархі і прадстаўнікі дыплёматычнага корпусу. Сам Сьвяцейшы Айцец з прычыны нездароўя на ўрачыстасьці ня быў.

## ДЫПЛЁМАТЫЧНЫЯ ЗЬВЯЗКІ ЯПОНІІ З ВАТЫКАНАМ.

Першы раз на працягу свае гісторыі Японія пастанавіла навязаць сталыя зьвязкі з Апосталь-

скім Пасадам. Дня 25-III пленіпатэнцыйны міністар Японіі сп. Такаіро перадаў Сьвяцейшаму Айцу свае крэацыйныя граматы.

### КРЫЗЫС СЬВЯТАРСКИХ ПАКЛІКАНЬ У ФРАНЦЫІ.

Зьменшаньне сьвятарскіх паклікань у Францыі адчуваецца штораз больш, так што апошнім часам у прэсе зьявіліся непакоючыя галасы аб крызысе. Напрыклад вялікая сэмінарыя ў Ліль перш штогод мела больш 50 кандыдатаў на першы курс, у 1950 г. іх было 44, а ў 1952 г. толькі 32. У дыяцэзіі Аррас ў 1952 г. на мейсца 28 памёршых сьвятароў высьвячана толькі 14. У Дыяцэзіі Сан Флюр ў 1920 г. працавала 400 сьвятароў — сёньня толькі 322. У іншых дыяцэзіях зьмяншэньне ліку сьвятароў ня так вялікае, аднак усюды дае аб сабе знаць.

Духоўныя ўлады пры розных нагодах арганізуюць супольныя малітвы для збольшаньня сьвятарскіх паклікань.

### ПІСЬМЕНЬНІК СЬВЯТАРОМ.

Аргэнтынскі паэт Даніэль Гарчя Мансіля, які пісаў свае творы ў францускай мове і быў так-жа ведамы, як дыплёмат, пасьля сьмерці свае жонкі, маючы 86 гадоў, высьвяціўся на каталіцкага сьвятара, атрымаўшы на гэта спэцыяльны дазвол ад Сьвяцейшага Айца.

### Ці МАЕ НАСТАЦЬ ЗЬМЕНА АДНОСІНАЎ ДА ЦАРКВЫ Ў ЮГАСЛАВІІ?

Пасьля афіцыяльнае візыты маршала Ціто ў Англіі на старонках эўрапэйскае прэсы зьявіліся артыкулы, у якіх выказваюцца розныя дагадкі, быццам у Югаславіі мае быць злагоджаны націск супраць Царквы. Тымчасам аднак нідзе таго спадзяванага злагоджаньня ня відаць.

### ДАЛЕЙШАЕ ЗАСУДЖАНЬНЕ МІТР. СЬЛІПОГА.

У Рыме на заканчэньне трохдзённых малітваў за прасьледаваных хрысьціян у падсавецкіх краінах, была наладжана акадэмія, на якой між іншымі прамаўляў монс. Майолі мінутант з Кангрэгацыі для Усх. Царквы. Ён гаварыў аб долі каталіцкіх ерархаў на абшары Савецкага Саюзу і ўканцы падаў апошнія весткі аб украінскім львоўскім мітрапаліце Я. Э. Іосіфу Сьліпым, які ў 1946 г. быў засуджаны на 8 гадоў цяжкае працы ў Сібіру. «Найнавейшыя весткі — гаварыў монс. Майолі — прынесеныя адною асобаю, якой можна поўнасьцю верыць, кажуць, што прасьледаваньне Царквы на Украіне ў 1952 г. было вельмі вялікае. На вуліцах гарадоў выстаўляліся карыкатуры Сьвяцейшага Айца. Падчас розных сходкаў усюды абкідвана ўсялякімі закідамі Ватыкан і каталіцкую ерархію, абвінавачваючы іх як шпіёнаў... Архіяпіскап Іосіф Сьліпый час-ад-часу прысылаў з Сібіру пастырскія лісты. Савецкая ўлада даведалася аб гэтым і прадоўжыла для яго кару на далейшых 17 гадоў. Дзе цяпер ён знайходзіцца няма ведама».

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Вялікі судовы працэс ў Менску.

У палове сакаіка г. г. адбыўся ў Менску вялікі судовы працэс супраць 15 чалавек, якіх бальшавікі называлі «бандаю быўшых трацкістаў, кулакоў, гандляроў і бандытаў». Абвінавачвана іх за тое, што «растрачвалі дзяржаўную маемасьць». Дзевяцёх з іх засуджана на найбольшую кару, па 25 гадоў турмы, а рэшту па 20 гадоў.

### Пінская праваслаўная епархія пустуе.

Як паведамляе «Жур. Моск. Патриархии» Нр. 12 з 1952 г. Пінскі і Палескі яп. Паісій (Образцов) перанесены ў Ульянаўскую і Мелекескую епархію, а ў Пінск пакульшто не назначана нікога. У зьвязку з гэтым перанясеньнем вырынаюць некаторыя пытаньні, на якія тымчасам цяжка знайсьці ясны адказ. За васьміградовы час япіскапскага служэньня яп. Паісій пераносіцца ўжо восьмы раз і аднойчы быў на пакої; хіба-ж ўсё гэта робіцца не дзеля заслугаў? Ува ўсёй Маскоўскай патрыярхіі назіраецца сыстэматычнае зьмяншэньне кадраў ерархаў; калі ў 1948 г. іх было 81 чалавек, дык ўканцы 1952 асталося толькі 64. За два апошнія гады не харытанізавана ніводнага новага япіскапа. Дык магчыма спадзявацца, што Пінск астанецца без япіскапа, бо-ж ужо ад травеня месяца пустуе Віленскае япіскапаства і да тэтага часу ім апекуецца Рыскі япіскап.

## АНГЛІЯ.

### 25 Сакавіка ў Лёндане.

Беларускае нацыянальнае сьвята кожны раз дае нагоду сабраць усе свае сілы, каб з радасьцю перажыць той сапраўды вялікі Сакавіковы Акт абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Сёлета беларусы ў Лёндане ня ладзілі акадэміі, не гаварылі вершаў, але тым ня менш годна правялі свой нацыянальны дзень.

Стараньні аб ушанаваньні і правядзеньні нацыянальнага дня ўзяў на сябе Каардынацыйны Ка-



**Беларускі краявід — Засьценак над рэчкай.**

мітэт Беларускіх Арганізацыяў у В. Брытаніі. Было пастаноўлена дня 25-III зрабіць прыняцьце ў Беларускім Доме для сваіх сяброў беларусаў і для госьцяў. Былі разасланыя адпаведныя запросіны ў ангельскай мове. Каля гадзіны восьмай у азначаны дзень пачалі сходзіцца госьці ў толькішто адноўлены Беларускі Дом. У адным канцы салі ўжо чакаў госьцяў багаты буфэт, а ветлівыя беларускі стараліся выявіць пры гэтым сапраўдную беларускую гасьціннасьць.

Калі Дом напоўніўся, старшыня Каардынацыйнага Камітэту папрасіў усіх прысутных заняць мейсцы. У простых і шчырых словах ён прывітаў прысутных. З нагоды сьмерці каралевы Марыі ён злажыў кандаленцыю прысутным ангельцам і пры гэтым адчытаў тэлеграму, якую Каардынацыйны Камітэт выслаў на рукі каралевы Альжбеты II. Хвілінай моўчанкі была ўшанаваная памяць пакойнае каралевы Марыі. Наступна У. Курыла прывітаў усіх у беларускай мове. Трэцім прамоўцам быў ангельскі дзеяч Вэбстэр з партыі кансэрватыстаў. Гэта першы выпадак у Англіі, калі беларусы маглі пачуць ангельца, які з вялікай сілай перакананьня стаў у абароне незалежнасьці Беларусі. Гаварыў ён як прыватная асоба але добра ўжо прастудыяваў нашу праблему і ведае нашыя імкненьні. Ён даўжэй затрымаўся на прыродных багацьцях Беларусі і акце абвешчаньня яе незалежнасьці. Уканцы ён пажадаў, каб ужо наступны 25-III мы беларусы сьвяткавалі ў родным Менску. Варта заўважыць, што на салі было шмат ангельцаў і ўсе яны часта далучалі да слоў прамоўцы свае патакуючыя рэплікі.

Наступна віталі беларусаў: ад чэхаў гэнэрал Прхала, ад украінцаў праф. Сэмчышын, ад палякаў інж. Сьцібор-Рыльскі і праф. Славінскі, ад грузінаў сп. Ґуґэшвілі, ад славакаў др. Прідавок, ад летувісаў сп. Трупілайтіс; іншыя запрошаныя, ня могучы прыбыць асабіста, прыслалі свае прывітаньні лістоўна. Пасьля прамоваў за сталом пачалася вольная гутарка ў сяброўскім настроі час-ад-часу перарываная беларускімі мэлёдыямі з грамафонных плытаў.

Між прысутных былі прафэсары унівэрсытэту, людзі з вайсковым стажам, палітычныя дзеячы і журналісты — усе яны жадалі нам хуткае перамогі на вызвольным шляху і дзякавалі за прыгожы вечар. Ідэя аб незалежнай Беларусі расходзіцца штораз шырэй і далей і знайходзіць водклік у ангельскіх кругох.

## АЎСТРАЛІЯ.

### З грамадзкага жыцьця.

У жыцьці беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі апошнім часам адчуваецца паважны застой. Выкліканы ён часткава вялікім безрабоцьцем, а часткава іншымі прычынамі. Гэта адбілася і на сьвяткаваньні беларускага Нацыянальнага Дня і

на Агульным Сходзе Б. А. у Н. П. В., якія адбыліся 28-III ў Сыднэі. Акадэмія ў чэсьць 25-III была вельмі сьціплая, да прысутных прамаўляў др. Я. Малецкі, мастацкае часткі ня было. Пасьля адбыўся Агульны Сход Аб'еднаньня Беларусаў у Новай Паўднёвай Валіі. Справаздача ўступаючае ўправы не магла пахваліцца паважнымі асягненьнямі. На старшыню новае ўправы Аб'еднаньня выбрана Л. Рыбніка, спадзяючыся, што магчыма малодшыя сябры ў складзе ўправы ажывяць дзейнасьць арганізацыі.

**БЭЛЬГІЯ.**

**Сьмерць кампазытара М. Равенскага.**

Ужо ад пару месяцаў даходзілі весткі аб паважнай хваробе кампазытара Міколы Равенскага, але адначасныя весткі аб частых канцэртах ансамблю беларускіх студэнтаў у Бэльгіі пад кіраўніцтвам М. Равенскага быццам падказвалі, што нічога гразнага для жыцьця кампазытара няма. У сапраўднасьці аднак апошнім часам М. Равенскі працаваў толькі сілаю волі і калі нарэшце лёг у клініцы, дык прафэсары не знайходзілі пацяшаючых слоў. Выспавядаўшыся і прычасьціўшыся кампазытар аддаў сваю душу Богу дня 9-III. Пахаваньне адбылося 12-III.

У асобе пакойнага беларускі народ панёс вялікую страту і напэўна будзе яго памятаць заўсёды, калі толькі будзе выконваць ягоныя шматлікія кампазыцыі і славіць Бога рэлігійным гымнам «Магутны Божа».

**Агульны Зьезд ЗБК.**

Дня 15 лютага ў Беларускім Студэнцкім Доме ў Лювэне адбыўся гадавы Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Бэлгіі. Распачаўся ён Службаю Божаю, якую адправіў у студэнцкай праваслаўнай капліцы а. Аўгень. За мінулы год ЗБК пабольшыла лік сваіх сяброў і пашырыла поле свае дзейнасьці на паўночную Францыю, вяло так-жа дапамаговую дзейнасьць, арганізуючы Фонд Дапамогі хворым. Новую ўправу выбрана ў такім складзе: старшыня — М. Арцюх, сакратар — А. Шацько, скарбнік — Л. Вінніцкі. Уканцы намечана плян працы на йдучы год, апрацавана рэзалюцыі ў справе раздаваньня сп. Р. Астроўскім афіцэрскіх рангаў і адносінаў да КЦАБ-у.

**ГІШПАНІЯ.**

**Беларуская радыёперадача.**

Невялікая беларуская студэнцкая група ў Мадрыдзе годна азначыла 35-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. З гэтае нагоды дня 25-III рана а. капэлян студэнцкае Калегіі сьв. Якава ў Мадрыдзе адслужыў у калегіяльнай капліцы Службу Божую за Беларусь. Не зважаючы на тое, што гэта быў будны дзень у капліцы зышлося нямала народу; было некалькі міністраў экзыльных урадаў розных народаў, была ўся адміністрацыя Калегіі. Пасьля Службы Божае адбыўся сьціплы пачастунак для госьцяў. Папалудні таго-ж дня між 16,40 і 16,55 праз Гішпанскае Нацыянальнае Радыё адбылася зьмястоўная радыёперадача ў беларускай мове аб усенародным беларускім імкненьні да мэты, вызначанае актам 25 Сакавіка.

**З. Ш. А.**

**Беларускі рух расьце і ўзмацняецца —**

Так можна коратка схарактэрызаваць падзеі з беларускага культурнага і арганізацыйнага жыцьця за першыя месяцы ͡з гэтага году ў З. Ш. А.

● **Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне** сёлета ў днёх 28 лютага і 1 красавіка мела ўжо чацьвёрты з чаргі Кангрэс. Ён быў больш шматлікі, як папярэднія і меў большую праграму. Справаздачы ўправы і плян працы на гэты год сьведчаць, што арганізацыя паважна ўзмацнела. У склад новае ўправы выбрана: старшыня — Фр. Кушаль, заступнік старшыні — Ч. Ханяўка, сакратар — І. Рыттэр, скарбнік — Ул. Русак, рэф. сац. апекі — Б. Вержбаловіч.

● Стараньнем Інстытуту Навукі і Мастацтва дня 21 лютага быў наладжаны **вечар паэзіі Рыгора Крушыны,** на якім пасьля ўступнага слова В. Тумаша сам аўтар чытаў свае творы.

● У **Амэрыканскай Навуковай Канфэрэнцыі Мюнхэнскага Інстытуту** па Вывучэньню Гісторыі і Культуры СССР, адзьдзел у Нью Ёрку, адбыўся 25-III даклад д-ра Ул. Сядуры на тэму «Беларуская культура і таталітарызм». Для аўдыторыі было навінаю пачуць аб шляхох і разьвіцьцю ўсіх галінаў беларускае культуры за апошніх трыццаць гадоў, аб тых дасягненьнях, да якіх былі дайшлі беларусы напружанаю працаю і аб жахлівым руйнаваньні іх бальшавікамі. У канфэрэнцыі ўдзельнічаў з беларускіх навукоўцаў яшчэ Ан. Адамовіч, які падаў колькі сваіх заўвагаў да закранутых праблемаў. Даклад д-ра Сядуры выклікаў у амэрыканскіх навуковых колах вялікае зацікаўленьне і будзе надрукаваны ў працах Канфэрэнцыі.

● У Нью Ёрку **35-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі** сьвяткаваліся 29-III. Таго дня раніцай уладыка Васіль яп. БАПЦ адправіў урачыстую Службу Божаю ў беларускай праваслаўнаў аўтакефальнай царкве за Беларусь, а папалудні таго-ж дня адбылася ўрачыстая акадэмія ў Бэтховэн Гол. Зьмястоўныя прамовы і добра выкананая канцэртная частка далі ўдзельнікам шмат духовага задаваленьня і падтрыманьня пе-

ракананьня, што ідэал абвешчаны актам 25 Сакавіка беларускі народ асягне, не зважаючы на нізкія перашкоды.

● Дырэктар Амэрыканскага Усходня-Эўрапэйскага Фонду д-р Д. Мунфорд нядаўна афіцыяльна паведаміў, што гэты Фонд будзе выдаваць **стыпэндыі студэнтам беларусам і украінцам,** якія пакінулі СССР пасьля 1939 і цяпер ня маюць больш 35-яці гадоў. Студэнты атрымаюць стыпэндыі з пачаткам 1953/54 акадэмічнага году.

## ІТАЛІЯ.

### Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Рыме.

Сёлета ў Рыме 35-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежанасьці Беларусі былі азначаны асабліва ўрачыста. Прычынілася да гэтага ўправа ЦБАА, ад імя якое прыехалі ў Рым д-р Рагуля з жонкаю і Ул. Цівірко. Спэцыяльна на гэтую ўрачыстасьць прыехаў з Аўстрыі а. д-р Робэрт ван Кавэлерт і з Нямеччыны а. Міхась Маскалік.

Раніцаю 25-ІІІ а. д-р Пятро Татарыновіч адправіў Службу Божую ў старыннай базыліцы Сьв. Францішкі Рымскае. Падчас багаслужэньня адсьпяваў дзьве беларускія рэлігійныя песьні ведамы беларускі сьпявак бас П. Конюх пад акампаніямэнт праф. Адрыяна Корсі. Да бяскроўнае літургічнае ахвяры прынесенае цэлебрантам за Беларусь, далучылі свае малітвы прысутныя ў базыліцы беларусы і шматлікія прадстаўнікі госьці ад іншых народаў: італьянцаў, латышоў, летувісаў, славакаў, словэнцаў, украінцаў, харватаў і чэхаў, між якімі беларусы з радасьцю бачылі: Я. Э. Івана Бучко — Апостальскага Візытатара для украінцаў, Я. Э. Вінцэся Подолякскіса — рэктара летувіскае Калігіі, а. Антона Вуйтс-рэктара Калегіі сьв. Івана Дамаскіна, а. Хоміна — гэнэральнага сакратара а. а. Базыльянаў і інш. Пасьля Службы Божае ўсе прысутныя ў базыліцы сабраліся ў салі сьв. Бэнэдыкта, каб выслухаць інфармацыйную прамову а. Робэрта аб акце 25 Сакавіка і аб дзейнасьці ЦБАА, ды пасьля бліжэй пазнаёміцца між сабою падчас скромнага пачастунку.

Вечарам таго-ж дня адбылася акадэмія ў салі найбольшага ў Рыме ратэлю «Гран Готэль». Госьцяў зьявілася больш 50 асобаў з розных кругоў і ад розных народаў, а некаторыя ня могучы прыйсьці асабіста, прыслалі прывітальныя лісты. Варты ўвагі той пацяшаючы факт, што былі прадстаўнікі або групова, або паадзіночна ад усіх паняволеных бальшавізмам народаў, так ад блізкіх нам суседзяў, як і ад далёкіх; нават быў прадстаўнік ад далёкага Усходу монс. Лё-Гуанг консультар кітайскага прадстаўніцтва пры Апостальскім Пасадзе, было так-жа нямала паважных дзеячоў з заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў.

Акадэмію адчыніў а. д-р Татарыновіч прывітаньнем і кароткаю прамоваю, пасьля чаго прамаўляў пафранцуску д-р Рагуля. Ён зрабіў кароткі агляд гісторыі Беларусі і вызвольных змаганьняў беларускага народу, заклікаючы, ўканцы, заходня-эўрапэйскія народы памагчы беларусам асягнуць незалежнасьць і звярнуўся да Бога з просьбай, каб вярнуў нам вольную бацькаўшчыну. Наступна адбылася мастацкая частка акадэміі з выступленьнем беларускага артысты-сьпевака П. Конюха, сп-ні Л. Рагуліхі і слаўнае італьянскае сьпявачкі Лючыі Розіні Сорзі — доўганезмаўкаючыя воплескі пасьля кожнага нумару сьведчылі, што праграма была выкана сапраўды памастацку. На заканчэньне адбылася супольная бяседа.

Назаўтра адна з найпаважнейшых італьянскіх газэтаў «Il Tempo» падала шырокую справаздачу аб сьвяткаваньні беларускага Нацыянальнага Дня.

### Артыкул аб Беларусі.

У шырокаведамым італьянскім часапісе айцоў езуітаў «Civilta Cattolica» Нр. 2464 з лютага г. г. зьявіўся артыкул а. Аляксея Флёрыдзі «У зьвязку з кнігай аб беларускай літаратуры». Гэта абшырная рэцэнзія на кнігу Мэссіны «Беларуская літаратура». Даслоўны пераклад артыкулу зьявіўся з «Зьнічы» Нр. 22.

## КАНАДА.

### З жыцьця З. Б. М.

Згуртаваньне Беларусаў у Монтрэалі гэта адзін з найбольш дзейных беларускіх асяродкаў у Канадзе. Дня 14 сьнежня м. г. на чарговым агульным сходзе выбрана новую ўправу З. Б. М. у складзе: старшыня — В. Сьпічонак, сакратар — Л. Ігнатовіч, скарбнік — Б. Б-ч, культурна-асьветны рэфэрэнт П. Чопчыц, агульна-арганізацыйны рэф. — В. Ждан. Новавыбраная ўправа пастанавіла штомесяца ладзіць агульныя сходкі з лекцыямі на тэмы беларусаведы. Першую такую лекцыю прачытаў 14-студзеня М. Новак на тэму «Нацыянальная ўстойлівасьць беларускага народу» Пачынаючы ад студзеня г. г. З. Б. М. пачало выдаваць ратапрным друкам свой месячны ворган «Прамень». Ад мінулага году ў Монтрэалю працуе Беларуская Школка пад кіраўніцтвам П. Чопчыца, тымчасам у ёй вучыцца ўсяго 7 дзяцей, але ёсьць надзея, што іх лік хутка збольшыцца. Пры З. Б. М. працуе Мастацкі Гурток і Тэатральная Студыя, ёсьць так-жа свая невялікая бібліятэка.

## НЯМЕЧЧНА.

### Новая марыянэтка.

Нядаўна, бо 1-ІІІ-53 з ініцыятывы расейскае палітычнае арганізацыі СБНОР у Мюнхэне створана

«Белорусское Демократическое Объединение» Гэта новы расейскі твор для барацьбы з беларускім незалежніцкім рухам. У зьвязку з гэтым варта прыпомніць, што расейскія кіруючыя кругі ад даўна ўвялі сыстэму ўсякіх подступаў у змаганьні супраць усяго беларускага. У 1919 г. супраць Беларускае Народнае Рэспублікі бальшавікі стварылі марыянэтку БССР, у 1943 г. былы бальшавіцкі гэнэрал Уласаў стварыў у сваім штабе беларускую марыянэтку на чале з Будзіловічам; у 1948 г. Расейская Зарубежная Прав. Царква была стварыла марынэтачны «Белорусский Комитет» на чале з арх. Бэнэдыктам, высьвячаным у Маскве, а цяпер зноў, калі беларускім пытаньнем жывей зацікавіліся ў міжнародным палітычным жыцьці, паўстае новы расейскі твор, але кропля-ў-кроплю ў стылю бальшавіцкіх марыянэтак. Відаць, што тое балота, якое нарадзіла бальшавізм, яшчэ ня высахла і ў радох расейскае эміграцыі. Глыбокую праўду пісаў расейскі філязоф Н. Бердяев у сваёй кнізе «Новое средневековье»: «Бальшавізм адказвае духоваму стану расейскага народу, выяўляе навонках нутраныя духовыя распады, адступніцтва ад веры, рэлігійны крызыс, глыбокую дэмаралізацыю народу... Народ знайходзіцца ў стадыі абману і стварыў манлівую ўладу... Улада, катораяя захацела-б быць больш культурнаю, не магла-б існаваць». Відаць, што ў радох расейскае эміграцыі ёсьць яшчэ многа такіх, якія за ўсякую цану стараюцца сьведама, ці нясьведама паказаць усяму сьвету, што Бердяев меў слушнасьць.

### ФРАНЦЫЯ.

#### Сакавіковыя ўрачыстасьці.

● У **Парыжу** трыццаць пятыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ўрачыста азначаліся 29-III. Гэтага дня ў беларускай капліцы пры царкве Сан Сюльпіс рана была адпраўлена ўрачыстая Служба Божая з прынагадным зьмястоўным казаньнем, а папалудні ў салі Хрысьціянскага Сындыкату адбылася акадэмія. Адчыніў яе М. Наумовіч і пасьля супольнага адсьпяваньня песьні «Беларусь, наша маці-краіна» Ал. Яцэвіч прачытаў рэфэрат аб «Ідэі незалежнасьці Беларусі». Наступна прэз. БНР інж. М. Абрамчык прадставіў сучасны стан вызвольнага змаганьня і асягненьні ўраду БНР на міжнародным дыплёматычным полі.

На мастацкую частку акадэміі зложыліся дэклямацыі патрыятычных вершаў, пераплятаныя беларускімі песнямі з дыскаў. На заканчэньне быў адсьпяваны беларускі нацыянальны гымн.

● У **Ля Крэзо** беларуская калёнія азначала сваё Нацыянальнае Сьвята падобна як і ў Парыжу 29-III. Раніцаю гэтага дня а. Фр. Чарняўскі адправіў Службу Божую ў царкве сьв. Шарля і пры гэтым сказаў зьмястоўнае, кранаючае сэрца казаньне. Прыгожа сьпяваў хор. Пасьля Службы Божае быў супольны абед. Сьвяточная атмасфэра, прыязныя ўзаемныя адносіны і родныя песьні вытварылі там такі настрой, што прысутныя маглі хоць на нейкі час забыцца аб сваім выгнаньні і перанесьціся думкаю на далёкую бацькаўшчыну ды набраць пэўнасьці, што сучасныя народныя цярпеньні гэта болі, ў якіх родзіцца лепшая сьветлая будучыня Беларусі.

Папалудні ў мяйсцовым мэроўстве адбылася акадэмія. Адкрыў яе старшыня мяйсцовае філіі АБРФ Бр. Нагорны. Рэфэрат аб 35-ых угодках Сакавіковага Акту прачытаў М. Булыга. Наступна прамаўляў а. Фр. Чарняўскі. На мастацкую частку акадэміі зложыліся дэклямацыі патрыятычных вершаў і сьпевы солё і хорам. Закончылася акадэмія беларускім нацыянальным гымнам.

---

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І І ФОНД «ДОБРАЕ КНІЖКІ»

**Апошнім часам прыслалі:**

(Сумы паданы ў францускіх франках)

Бобако Л. 500, Грыгаровіч В. 1.000, Дунец У. (ад грыпы Клевэлянд) 9.975, Каштэлян У. 400, Лазуто Я. 1.000, Лысуха М. 500, Місуно У. 60, Міцкевіч В. 900, Нагорны Бр. (ад групы Ля Крэзо) 1.350, Н. Н. 3.500, Прошын Я. 350, Садоўскі Я. 917, д-р Т. В. 1950, а. Ф. Ч. 2.100, Яцкевіч Д. (ад групы Аўстралія) 1.905.

## Абразкі з жыцьця

### ЯК БОГ АЦЭНІЦЬ ПРАЦУ?

У адным манастыры брат-манах, які праз усё жыцьцё выконваў толькі чорную працу, адносіўся з вельмі вялікай пашанай да аднаго айца-прафэсара, які напісаў шмат навучных кнігаў. Аднаго дня ўвайходзячы з венікам у руках у келію таго айца, брат казаў:

— Вы, ойча, за сваю працу пэўна атрымаеце вялікую нагароду ў небе.

— Мой браце, — адказаў прафэсар — хто ведае, як Бог ацэніць нашу працу ў дзень апошняга суду? Магчыма твой венік будзе больш вартасным, чым мае кнігі. Калі ты, замятаючы келіі і карыдоры, жадаеш больш шчыра, чым я пішучы кнігі, уславіць Бога, дык і нагароду атрымаеш большую чым я.

### НАЙЛЕПШАЕ КАЗАНЬНЕ.

Старэнькі сьвятар рыхтаваўся да казаньня на вялікае ствята і няўпрыцям для сябе задумаўся: якое казаньне з усіх тых, што сказаў за свой век, было найлепшае? У гэтым часе пачуўся стук у

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur : Abbé L. Horosco.

дзьверы і на парозе паказаўся госьць — стары знаёмы з далёкае роднае вёскі. Слова-па-слову і ўканцы гутарка зыйшла на тэму казаньня.

— Вось ведаеш, мой любы, я рыхтуе казаньне на заўтра і думаю, якое з маіх нязьлічаных казаньняў было найлепшае.

— Я мала слухаў вашых казаньняў — адказаў аднавясковец — але для мяне вы далі найлепшую навуку яшчэ тады, калі былі студэнтам і не гаварылі казаньняў.

— Як гэта?

— А так. Аднойчы ў нядзелю, калі я памагаў старасьце прыбіраць да Службы Божае, вы ўвайшлі ў царкву, калі яшчэ там нікога ня было і, ўкленчыўшы ў кутку, пачалі маліцца. Вы думалі, што вас ніхто ня бачыў, але я бачыў праз дыяканскія дзьверы, а ўважаў вас за вучонага чалавека і калі пабачыў, што вы шчыра моліцеся, дык гэтая малітва была для мяне найлепшаю навукаю.

Ніякае красамоўства ня дзейнічае так магутна, як добры прыклад.

## І МОХ МОЖА НАВУЧАЦЬ.

Адзін нямецкі дасьледнік Афрыкі разам са сваею вялікаю караванаю стаўся ахвяраю разбойніцкага нападу дзікароў. Большая частка ягоных супрацоўнікаў была пазабіваная, частка разьбеглася, а сам ён цяжка паранены ляжаў на зямлі адзінока і бяспомачна. Не спадзяючыся ніадкуль ратунку, ён быў блізкі роспачы. Але мімаволі пачаў прыглядацца да блізкае скалы і зглядзеў на ёй маленькую кучку моху, якая прыгожа разраслася, учапіўшыся за невялічкую трэшчыну ў камені. Паўзіраўшыся хвіліну на мох, вучоны падумаў: «Калі Нябесны Айцец дбае аб гэтай маленькай расьліне ў гэтай пустыні, дык і аба мне ў маёй бядзе падбае. Маё жыцьцё ў Ягоных руках». Узмоцнены гэткім разважаньнем, ён рэшткамі сілаў падняўся і пайшоў упярод. Хутка знайшоў ваду, а потым і добрых людзей, якія дапамаглі яму ў няшчасьці.

## ДАБРАБЫТ І АХВЯРНАСЬЦЬ.

Уканцы мінула году амэрыканская фундацыя Руссэля Сэйдт зрабіла вельмі цікавыя аблічэньні аб ахвярнасьці людзей. Апіраючыся на верагодных даных, яны аблічылі, што 82% усіх ахвярадаўцаў на дабрадзейныя мэты складаюць людзі, якіх гадавы чысты даход не перавышае 5000 даляраў і ў гэтым ліку больш як 60% складаюць людзі, што маюць у год чыстага даходу менш, як 3000 даляраў. Найменшы процант ахвяраў прыходзіць ад людзей, якіх даход ёсьць большы за 10.000 даляраў — яны ахвяроўваюць толькі 1,9% свайго даходу.

## НАЙБОЛЬШЫЯ ТУРБОТЫ МАЦЕРЫ.

У адной багатай сям'і маці зажадала ад свайго мужа, каб той неадкладны адправіў з дому хатняга слугу, які згоршваў дзяцей дрэнным прыкладам і няпрыстойнымі паводзінамі.

— А дзе-ж ты знойдзеш лепшага за сотню марак? — супярэчыў гаспадар — Гэткі слуга для нас зусім выстарчае.

— А мне — настойвала на сваім маці — душа кожнага майго дзіцяці даражэйшая чым усе скарбы сьвету і ты аб гэтым павінен памятаць.

Пасьля кароткае развагі гаспадар казаў слузе забіраць манаткі.

## БАЛЮЧАЯ НАВУКА.

У вёсцы Т-чы Баранавіцкае вобл. усе ведалі цётку Параску дзеля яе сварлівасьці. І на чужых, і нават на сваіх родных дзяцей яна сыпала, як з бяздоннае торбы найстрашнейшыя праклёны. Нават выпраўляючы сына на вайну яна за нешта ўзлавалася і крычала на ўсю хату:

— А каб цябе першая куля ня мінула!..

Праз тры месяцы парасчын сын пайшоў у першы бой і ягоны сябра праз колькі дзён пісаў з фронту дамоў: «...а парасчынага Паўлюка дык па-праўдзе ня мінула першая куля, учора яго пахавалі...»

Даведаўшыся аб гэтай сумнай навіне, Параска аж валасы на сабе рвала і першы раз у жыцьці прыкусіла сабе язык, каб хоць на іншых дзецях ня збыліся яе страшныя праклёны.

## ЛЮБОЎ БЛІЖНЯГА Ў ПРАКТЫЦЫ.

У японскім горадзе Гірошыма, зьнішчаным атамнаю бомбаю, цяпер будуюць вялікую каталіцкую царкву, прысьвячаную міру. Нядаўна муніцыпальная рада нямецкага гораду Кэльн пастанавіла ахвяраваць новай гірашымскай царкве арганы. Бурмістр Кэльну д-р Швэрінг, передаючы гэтую пастанову Апостальскаму Адміністратару вікарыяту Гірашымы монс. Людовіку-Акіра Огігара між іншым пісаў: «Кэльн, адзін з найбольш зьнішчаных гарадоў Нямеччыны, аднак мы ўважаем патрэбным дапамагчы нашым скромным дарункам царкве, якую будуюць у Вашым горадзе, бо ён найбольш пацярпеў. Мы сваею скромнаю, але сардэчнаю дапамогаю хочам даказаць, што праз нашы цярпеньні мы навучыліся разумець і стараемся злагодзіць цярпеньні нашых братоў, якое-б нацыянальнасьці яны ня былі».